# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 13 (19) 8 ліпеня 1992 г. Цана 80 кап.


## ЗАЯВА ЎПРАВЫ БНФ «АДРАДЖЭННЕ»

Народ Беларусі праз сродкі масавай інфармацыі рыхтуюць да думкі пра непазбежнасць вайсковага саюзу з Расіяй. Пры гэтым спасылаюцца на неабходнасць ахаваць ад беспрацоўя работнікаў беларускіх прадпрыемстваў вайскова-прамысловага комплексу. Паўстае рэальная пагроза нейтралітэту Беларусі, грамадзянскай стабільнасці і самой незалежнасці нашай краіны.

Ператварэнне Расіі з імперыі ў дэмакратычную дзяржаву прыпынілася. Яе палітыка зноў адкрыта скіроўваецца на аднаўленне імперыі, на тэрытарыяльныя замахі. Апошнія захады Расіі супраць суверэнных Малдовы і Грузіі прадэманстравалі свету незнішчальнасць імперскіх настрояў гэтай краіны. У правакацыйных заявах расійскіх лідэраў, у расійскіх сродках масавай інфармацыі «акупацыяй» называюцца дзеянні войска незалежнае дзяржавы па абароне ўласнай тэрыторыі, а «вызваленнем»—заняццё незаконнымі фармаваннямі населеных пунктаў. Расія лічыць, што мае права ўмешвацца ва ўнутраныя справы іншых краін—прызнаных міжнародным супольніцтвам членаў ААН,—толькі на той падставе, што там жыве рускамоўная меншасць. XX стагоддзе ўжо ведала краіну, якая пачынала з «абароны правоў сваёй меншасці» ў суседніх краінах. Гэта была гітлераўская Германія.

Вузлы канфліктаў у былых савецкіх рэспубліках свядома завязваліся шматгадовую міграцыйнай палітыкай, а ў час развалу савецкай імперыі—падтрымкай пракамуністычных настрояў у часткі некарэннага насельніцтва. Нікім не прызнанымі, але выразна зарыентаванымі на Маскву сепаратысцкімі «рэспублікамі» кіруе былая камуністычная наменклатура. Штучна і па аднолькавым сцэнарыі створаныя «рэспублікі» сталі мінамі запаволенага дзеяння супраць незалежнасці краін былога СССР.

Управа БНФ рашуча асуджае праявы расійскага імперыялізму. Канфлікты ў краінах былога СССР распальваліся пры ўдзеле імперскага «цэнтра» і могуць быць вырашаны толькі пры неўмяшанні Расіі.

Управа БНФ патрабуе ад кіраўніцтва Беларусі цвёрдага захавання канстытуцыйнага курсу на нейтралітэт. Сённяшнія імперскія памкненні Расіі робяць немагчымым саюз Беларусі з ёю. Наш народ дастаткова пакутаваў пад чужой уладай, каб зноў пасылаць сваіх сыноў гінуць за чужыя інтарэсы.

г. Менск.

„Выбар", на мой погляд, самая сумленная газета Віцебшчыны. Дай бог ёй удачы!

Васіль Быкаў

5.VII-92 Віцебск

Чытачам смелай газеты „Выбар" жадаю мужнасці і сілы адстойваць праўду і крывіцкую справу! Жыве Беларусь!

Рыгор Барадулін

Віцебск, 5 VII 92



## «Поговорили» у парадного

Нелёгкая жизнь вынудила учителей, родителей и ребят средней школы № 13 города Витебска пикетировать здание облисполкома.

Уже много месяцев циркулируют слухи о готовящемся решении передать комплекс зданий этого учебного заведения подведомственному МВД военизированному подразделению по охране общественного порядка. В городе школ не хватает, а СШ № 13 единственная в окраинном микрорайоне. Её посещают и дети с близлежащих деревень.

К пикетчикам вышел начальник управления народного образования облисполкома Н. М. Гирса.

Состоялась продолжительная беседа, а точнее, словесная перепалка у парадного подъезда.

Каково же было недоумение пикетирующих, когда уста отца народного образования области в итоге изрекли такую тираду: «Это не мой вопрос! Обращайтесь в райисполком».

А когда наш корреспондент попросил начальника высказаться по поводу нравственного аспекта выделения школьных зданий под нужды милиции, он отрубил: «Я на провокационные вопросы не отвечаю!»

Г. ХРОМОВ.




## Заява беларускіх вайскоўцаў

Каардынацыйная рада Беларускага згуртавання вайскоўцаў звярнулася днямі да грамадскасці рэспублікі ў сувязі з праблемамі, якія ўзніклі апошнім часам у ходзе стварэння беларускага войска. БЗВ, як сказана ў прынятай радай заяве, лічыць неабходным:

«Неадкладна прывесці да прысягі на вернасць Рэспубліцы Беларусь увесь афіцэрскі корпус нашай краіны, як афіцэраў кадравай службы, так і запасу.

Распрацаваць дзяржаўную праграму вяртання беларускіх афіцэраў на Радзіму.

Спыніць вывад з Германіі злучэнняў расійскай арміі на тэрыторыю Беларусі.

Разгарнуць у беларускім войску шырокую патрыятычную працу па выхаванні афіцэраў і жаўнераў у духу вернасці і адданасці Беларусі».

БЗВ звярнуў увагу парламента і ўрада на тое, што лёс 40000 афіцэраў на чужыне закранае паўмільёна людзей на Беларусі. Вяртанне гэтых людзей адпавядае інтарэсам Беларускай дзяржавы і павінна быць вырашана на дзяржаўным узроўні.

## НАВІНЫ

На Беларусі выйшла чарговая паштовая марка. На гэты раз на паштовым знаку мы бачым выяву старажытнага герба Полацка, над верхам якога намаляваны нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг. Намінал маркі складае 2-00.

* * *

Бард беларускай эміграцыі Данчык (Андрусішын) выпусціў сваю чацвёртую касету. На ёй акрамя твораў, якія ўжо вядомыя, запісаны цікавыя аранжыроўкі новых песень. Касета выйшла пры дапамозе беларускага грамадства ЗША і Канады.

# Институт президентства,

## или Республика как средство разделения исполнительной и законодательной власти

Несмотря на существовавшие некогда зачатки правового государства и гражданского общества, восходящие к Великому Литовскому (Белорусскому) Статуту 1588 г., проблема преодоления тоталитарного прошлого остро стоит перед независимой Республикой Беларусь. Сказались последствия повсеместного насаждения уравнительной психологии и коллективистских ценностей, которые настолько стали своими большинству людей, что вопроизводятся ими, только в другой форме, даже если они и являются противниками ныне существующей системы.

Одним из направлений в поступательном формировании гражданского общества и правового государства является последовательное осуществление принципа разделения властей. Еще во французской Декларации прав человека и гражданина, принятой более 200 лет тому назад, отмечалось, что общество, где оно не осуществлено, не имеет конституции. Конечно, говорить, что в бывшем СССР и в странах так называемого советского блока существовало разделение властей и имелись демократические конституции, не приходится. Казалось бы, естественным путем решения этой проблемы могли бы явиться свободные парламентские выборы. Именно их проведения и добивались демократические силы, ибо только в ходе этих выборов мог реализоваться принцип суверенитета народа.

Считалось, что свободно избранный парламент примет новую конституцию, сформирует самостоятельную исполнительную власть и реформирует судебную систему, в основу которой ляжет принцип независимости. Однако, как показала практика, сама по себе реализация принципа суверенитета народа автоматически, по крайней мере в республиках бывшего СССР, не утвердила ни демократии, ни разделения властей. Его упрощенная трактовка и понимание привели к непредвиденным последствиям: к признанию абсолютного верховенства парламента, к утверждению такого подхода, согласно которому его власть можно ограничить только в случае перевыборов или проведения всенародного референдума. В этом случае не только не реализуется принцип разделения властей, но, наоборот, все прочие отрасли власти ставятся в прямую зависимость от парламента в целом или же какого-либо партийного большинства в нем.

Говоря о причинах этой, на первый взгляд странной, метаморфозы можно, конечно, было бы сослаться на недостаточно демократический избирательный закон, принятый в Республике Беларусь еще в 1989 году, в результате чего парламент на 85% состоит из бывшей партийной и государственной номенклатуры, вынужденной сегодня рядиться в демократические одежды и делать вид, что она движется в направлении рынка и гражданского общества.



Однако, даже в тех республиках бывшего СССР, где на выборах в парламенты одержали верх национальные демократы, трудно, на мой взгляд, говорить о наступлении эры разделения властей. И это не удивительно. Бывших представителей от парт- и госноменклатуры, национальных демократов, как впрочем и демократов-государственников роднит друг с другом абсолютизация власти парламента, которая в свою очередь проистекает из-за присущих им, хотя и по-разному понимаемых, коллективистских ценностей и популистской веры в спасительную силу государства.

Сейчас в Республике Беларусь успешно завершилась кампания по сбору подписей в поддержку идеи проведения референдума о доверии к ныне существующему парламенту. Сам факт выдвижения такой инициативы Белорусским народным фронтом, действия местных национальных демократов в период сбора подписей показывают, что в случае их победы на новых парламентских выборах они постараются на практике реализовать идею абсолютного верховенства парламента.

Конечно, имей мы сегодня независимую и автономную судебную систему, в том числе и Конституционный суд, или хотя бы верхнюю палату парламента, которая могла бы служить хоть каким-то средством сдерживания монопольных устремлений своего нижнего собрата, либо какой-нибудь другой набор сдержек и противовесов, принцип разделения властей был бы в какой-то мере гарантирован. В этих условиях, пожалуй, наиболее приемлемым способом выхода из сложившейся ситуации явилось бы избрание главы исполнительной власти (или государства) всенародным голосованием. В этом случае можно было бы достичь осуществления на деле принципа разделения властей, поскольку исполнительная власть, как и законодательная, конституировалась бы одинаковым способом—общим волеизъявлением народа. Тем самым была бы решена проблема уравновешивания двух видов власти: законодательной и исполнительной. Каждая из них действовала бы в своей сфере и не имела бы возможности возвыситься над другой. Как ни парадоксально на первый взгляд, институт президентской власти мог бы явиться гарантией (может быть даже и единственной) от сползания посткоммунистических стран к авторитаризму.

Вышесказанное не является единственной спасительной панацеей на пути упрочения демократии. Возможно, президентская республика как средство осуществления принципа разделения властей наиболее приемлема для тех стран, где в силу длительного господства коммунистической идеологии в сознании людей укоренилась коллективистская и уравнительная психология, а также существуют проблемы национального самоопределения и сохранения национальной культуры и языка.

Изменить представление людей о самих себе, сделать их сознание индивидуализированным, содействовать образованию независимых от государства структур гражданского общества, способных служить надежным механизмом защиты от проявлений тоталитаризма,—пожалуй, единственная гарантия не только осуществления принципа разделения властей, но и окончательной победы демократии.

**Михаил ПЛИСКО,**
**заместитель председателя Объединенной демократической партии Беларуси, народный депутат Мингорсовета.**

# Прысьвечаны Вялікаму Княству Літоўскаму

**Шаноўныя спадары!**

Высылаю Вам цікавыя матэрыялы, прысьвечаныя «Беларуска-літоўскаму кругламу сталу», што адбыўся нядаўна ў м. Гярвяты. *Добра б было, каб Вы цалкам надрукавалі «Паведамленьнё» аб яго выніках, бо ва ўсіх цэнтральных газетах інфармацыя зьмешчана толькі ў пераказе.*

*З павагай* **Алег Трусаў.**

## СПАТКАНЬНЕ ў ГЯРВЯТАХ

19—20 чэрвеня ў Гярвятах Астравецкага раёна адбылося афіцыйнае спатканьне гісторыкаў Беларусі і Летувы, названае «Беларуска-Літоўскі стол, прысьвечаны Вялікаму Княству Літоўскаму». Арганізатарамі і ініцыятарамі спатканьня выступілі Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Інстытуты гісторыі акадэміяў навук Беларусі і Летувы, Адзьдзел культуры Астравецкага райвыканкома, Беларускі Народны Фронт і літоўскі «Саюдзіс». Прысутнічалі кіраўнікі гэтых арганізацыяў, гісторыкі, археолагі, філолагі, лінгвісты, гісторыкі літаратуры.

Дабрадзеямі круглага стала сталі доктар Анджэй Цеханавецкі (Лёндан), Беларускі Інстытут навукі і мастацтва (Нью-Ёрк), Беларускі Фонд культуры, калгас «Радзіма» (Гярвяты).

Пасьля таго, як Літва і Беларусь сталі незалежнымі дзяржавамі, узьнікла неабходнасьць сістэматызаваць сваю гістарычную навуку, пазбавіцца ад ідэалагічных напластаваньняў, фальсіфікацыяў перыяду камунізму і скарэктаваць ацэнкі і погляды на агульную гісторыю дзьвюх суверэнных краінаў.

Спатканьне прайшло ў выключна цёплай і сяброўскай атмасферы ўзаемаразуменьня і павагі. Вынікам абмеркаваньня агульных праблемаў гісторыі Вялікага Княства стаў падсумовачны дакумент—«Паведамленьне», прыняты ўдзельнікамі круглага стала. Тэкст дакумента прапануем чытачам.

**Зянон ПАЗЬНЯК.**

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ пра беларуска-літоўскі навуковы «круглы стол», прысьвечаны Вялікаму Княству Літоўскаму

19—20 чэрвеня ў м. Гярвяты Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці адбылася сустрэча гісторыкаў Беларусі і Літвы.

Удзельнікі абмяркоўвалі праблемныя пытаньні гісторыі і метадалогіі дысьледаваньня Вялікага Княства Літоўскага з мэтай вызначыць агульныя падыходы да некаторых прынцыповых палажэньняў. Удзельнікі, узгадніўшы пазіцыі, зьвярнулі ўвагу на такі метадалагічны фактар, як супольнасьць дзяржаўнасьці, дзяржаўнай сьвядомасьці, дзяржаўных інтарэсаў і грамадзянскай ментальнасці ў ВКЛ. Гэты феномен зьяўляецца бясспрэчнаю падставай навуковых падыходаў да вывучэньня спадчыны ВКЛ.

Была адзначана культуралагічная і палітычная ўнікальнасьць супольнай балта-славянскай дзяржавы, яе арганізацыйна-палітычнае адзінства.

Удзельнікі лічаць непрадуктыўным механічны перанос сучасных нацыянальных уяўленьняў на дачыненьні палітычных сілаў і тэндэнцыяў у ВКЛ. Патрэбы гістарычнай навукі і існаваньне дзьвюх суверэнных дзяржаваў—Рэспублікі Беларусі і Літоўскай Рэспублікі—прамых спадкаемцаў гісторыі ВКЛ—вымагаюць раскрыцьця сутнасьці супольнага дзяржаўнага ўтварэньня, якое можна вызначыць зь сёньняшняга гледзішча як літоўска-беларускую або—раўназначна—беларуска-літоўскую дзяржаву, улічваючы пры гэтым важкі ўклад, які ў палітычнае і культурнае разьвіцьцё ВКЛ працяглы час уносіў украінскі народ.

Палажэньні гісторыяграфічных канцэпцыяў, якія вынікаюць з палітычных меркаваньняў «трэціх сілаў» і тэндэнцыйных ацэнак гісторыі ВКЛ, непрыймальныя з навуковага пункту погляду.

Будучыня беларускага і літоўскага народаў і нашых дзяржаваў неадлучная ад раскрыцьця і аб'ектыўнай ацэнкі нашай мінуўшчыны.

* * *

Вырашана стварыць двухбаковую камісію гісторыкаў Літвы і Беларусі для вызначэньня формаў далейшага супрацоўніцтва і ажыцьцяўленьня канкрэтных прапановаў.

**Іван ЛАЗУКА**

## Набірае «Пагоня» разбег

*Гулка стукае кроў у скроні,*
*За вярстою вярсту бяром,*
*Набірае разбег «Пагоня»,*
*З-пад капытаў нясецца гром.*
*Грозны тупат, галоп няспынны,*
*Не стрымае ніхто той бег,*
*Над зямлёю маёй Айчыны*
*Набірае «Пагоня» разбег.*
*Мы ж у цемру не звернем болей...*

*Па дарогах, лясах, палях*
*Мы ірвемся туды, за воляй,*
*І наперад вядзе нас шлях.*
*У балота няма звароту,*
*Нам на сэрцы імклівы бег.*
*Не зважаючы на павароты*
*Набірае «Пагоня» разбег.*

# МАРК ШАГАЛ НАЛЕЖЫЦЬ УСЯМУ ЧАЛАВЕЦТВУ

**Слова народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава ў час адкрыцця Шагалаўскіх дзён у Віцебску.**

Шаноўныя спадары і спадарыні. Нашы дарагія госці, гаспадары!

У гэтыя дні сталіца нашай Радзімы—Мінск шануе памяць аднаго з геніяў нашай культуры—Янкі Купалы.

Там праходзяць мерапрыемствы, у якіх удзельнічаюць і культурная грамадскасць і, канечне, як кажуць, шырокія народныя масы.

Віцебск ушаноўвае памяць свайго земляка, выдатнага мастака сучаснасці—Марка Шагала, і гэта, канечне, правільна. Гэта—адзіна правільная палітыка.

Даўно вядома, што мы, беларусы, надзвычайныя тугадумы, схільныя да вельмі, можа, і правільнай, але гэтак жа і спазнёнай думкі. Таму і асуджаны на задворкі гісторыі, на тое, каб падбіраць аб'едкі з багатых сталоў болей увішных суседзяў. Але каго можна вінаваціць за тое...

Калі ў вачах сусветнай супольнасці мастакоўскі геній Шагала ўжо ўвабраўся ў зеніт славы, у нас толькі яшчэ разгортваліся дыскусіі: таленавіты Шагал ці не, наш ён ці не наш, сіяніст ці антыкамуніст. Цяжка было зразумець не толькі на бытавым узроўні, але і спецыялістам, што тыя развагі—не болей чым сведчанне нашай правінцыяльнай дрымучасці, што талент Шагала вышэй за нашыя закасцянелыя догмы, і таму непадлеглы нашым развагам. Тым болей прысуду. І што ўсе тыя бязмозглыя дыскусіі—не болей чым марная трата часу, у якім адно ўладарыць —гісторыя. А тая гісторыя даўно на баку Шагала.

Чый мастак Шагал? Беларускі? Расейскі? Французскі? Яўрэйскі? Схаластычныя тыя пытанні, што не маюць прастога адказу, нядаўна яшчэ здольныя былі звесці з розуму не адну тупую галаву ў кіраўніцтве ці нават у мастацтве. Але, як і належала, яны павінны былі ўрэшце скончвацца самым мудрым адказам: нічый! Шагал належыць усяму чалавецтву, сучаснай хрысціянскай цывілізацыі. Менавіта з тае прычыны ён у роўнай меры і французскі, і расейскі, і яўрэйскі, і беларускі. І тут няма і не павінна быць вялікай дыскусіі. Тое, што прынята ўсёй цывілізацыяй, безумоўна, прынята і яе паасобнымі часткамі. Калі яны да яе адносяцца. Іншая справа, што некаторыя «часткі» не хочуць адносіцца да сучаснай цывілізацыі, выбіваюць права на «свой путь, свою особую стать, мессианскую роль». Тады канешне... тады ў іх будуць свае богі і свае святыя апосталы—ад Карла Маркса да Эдзічкі Лімонава.

Мы ж застаемся са сваімі.

Так, Шагал—геній сусветнай культуры, але ён нарадзіўся на нашай зямлі, выхоўваўся ў тутэйшым яўрэйскім асяроддзі. Менавіта гэтая лакалічнасць робіць Яго асабліва блізкім для нас, вылучае Яго з вялікага сонму мінулых геніяў. Але мы не эгаісты, мы не будзем Яго «прыватызаваць», разумеючы, што створанага ім хопіць на ўсіх—на ўсё чалавецтва. Дабро ўніверсальна і агульнадаступна. Трэба толькі мець гатоўнасць прыняць яго з усёй Яго няпростай духоўнае сутнасцю, як і належыць у адносінах да прарока.

Так ужо павялося з старадаўніх, біблейскіх часоў: няма прарока ў яго айчыне, відаць, не выключэнне тут і Шагал. Баюся, што на ягонай радзіме, у Беларусі, Яго прызнаюць апошнімі. Сумна гэта і горка. Хоць і нядзіўна. Хіба што энтузіясты, ягоныя прарокі апекуюцца і Шагалам, і справядлівасцю, і культурай. У наш час ад іхняй энергіі залежыць так многа. І сярод іх першы наш Давід Сімановіч, якому сёння мы павінны сказаць: асаблівы дзякуй табе, Давід,—ад беларусаў, рускіх, яўрэяў. Ты свой абавязак выканаў, хай таксама яго выканаюць іншыя.

Але незалежна ад усяго і нягледзячы на нішто Шагал на Беларусі будзе жыць. Бо ён ужо недасяжны для добрага і благога, ён вольна лунае ў высокім небе агульначалавечага ідэалу...

*Пяшчотныя, блакітныя Шагалаўскія дні! Цяпер у Віцебску ёсць помнік вялікаму мастаку, адкрыта музейная экспазіцыя ў яго доміку па вуліцы Пакроўскай.*

**На здымках:** *удзельнікі Шагалаўскіх дзён Рыгор Барадулін і Васіль Быкаў; адкрыццё мемарыяльнай дошкі на доміку Марка Шагала.*

**Рыгор БАРАДУЛІН**

## Вяртанне сноў

*Шалом табе, хата Марка*
*Шагала,*
*Пад небам віцебскім сірата,*
*Ты у хмарах znявагі*
*Шукала прычалу,*
*Каб пацяплела да дому вярста.*

*Чалом табе, мураванка-*
*буслянка,*
*Адкуль адляталі ў выгнанне*
*сны,*
*Шагалавы сны,*
*Дзе жыла калыханка,*
*І сны вярталіся з даўніны.*

*Датуль чалавек*
*Доўжыць шлях свой зямны,*
*Пакуль жывуць*
*Ягоныя сны.*

## НАВІНЫ

Беластоцкі беларускамоўны тыднёвік «Ніва» стаўся незалежным.

* * *

На Беларусі з'явіўся новы жаночы часопіс—«Гаспадыня». На вялікую шкадобу, матчына мова зусім не гаспадыня на бачынах выдання.

* * *

20-ая, юбілейная, сустрэча беларусаў Паўночнае. Амерыкі павінна адбыцца 5—7 верасня ў Нью-Брансвіку (штат Нью-Джэрсі, ЗША).

* * *

Кнігі беларускага замежжа ўсё частцей выдаюцца на Бацькаўшчыне. Упершыню ў РБ надрукавана кніга «Патушаныя зоры» Масея Сяднёва (ЗША). Нядаўна з'явіліся ў кнігарнях кнігі беластоцкіх пісьменнікаў Сакрата Яновіча «Самасей» і Міколы Гайдука «Трызна».

* * *

Кошт білетаў у віцебскія кінатэатры падняўся да 15 за адну і да 30 рублёў за дзве серыі. Квіткі на відэа і ў тэатр у сярэднім у 3 разы таннейшыя.

* * *

У № 19(4) брытанскага часопіса «Голас Часу» пададзены «Весткі з Віцебшчыны», у прыватнасці пра выставу мастака Ю. А. Якімовіча, што адбылася сёлета ў Віцебску.

* * *

Вялікі збор матэрыялу, які датычыць палітычнага й нацыянальна-культурнага жыцця Віцебшчыны, перададзены Віцебскай незалежнай суполкай Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» ў дзяржаўны абласны архіў.

**Ю. СЦЯПАНАЎ**

Знакомство произошло не так давно. Моторизованный отряд американцев, примчавший в Витебск на мотоциклах марки «Хонда», поразил витеблян чудо-машинами. Запомнятся этому мальчишке весёлые дяди из Штатов. Они долго катали наших детей на площади Свободы. Казалось, сошли к нам совсем с иной планеты.

Открыли для себя древний Витебск и представители заморской державы. Собственно ничего «древнего» в нашем городе им так и не бросилось в глаза.

Единственная навязчивая достопримечательность—очереди. Бывают они и в Калифорнии—за билетами на концерты суперзвёзд, у нас—за подсолнечным маслом.





# НЕ ХОЧАЦЦА БЫЦЬ РОЎНЫМ... У ЖАБРАЦТВЕ

**Добры дзень, дарагая рэдакцыя. Піша табе настаўнік, твой пастаянны чытач. Хачу падзяліцца сваімі раздумамі аб нашых праблемах.**

З месяца ў месяц, з году ў год мы рэгулярна адлічваем нейкую суму ад сваёй зарплаты на многія сацыяльныя патрэбы. Ці так гэта патрэбна? Я лічу, што тут неабходны карэнныя змяненні. Возьмем, напрыклад, медыцыну. Я заўсёды клапачуся аб сваім здароўі, займаюся лёгкай атлетыкай і другімі відамі спорту, круглы год купаюся ў рэчцы, лячэбна галадаю, жыву на разнастайных дыетах... І ўсё гэта дзеля аднаго—свайго здароўя. Я забыў той дзень, калі мяне лячылі ўрачы. І ўсё раблю для таго, каб з імі не сустракацца ў бальніцы.

А многія іншыя людзі ў той жа час кураць і п'юць, ядуць усё, што можна і што нельга, аб спорце ўспамінаюць толькі тады, як глядзяць «па яшчыку» навіны ці футбол, не клапацяцца аб нейкім жыццёвым распарадку...

Карацей кажучы, усё робяць, каб хутчэй пагробіць сваё здароўе. У паліклініках такіх людзей ведаюць вельмі добра, а іх бальнічная карта стала падобна на тоўсты том крымінальнай справы. І ў той жа час мы аднолькава спраўна адлічваем грошы са сваёй кішэні на медыцынскае абслугоўванне. Што ж атрымліваецца, я, хто не шкадуе часу і сіл, каб падтрымліваць сваё здароўе, павінен плаціць за медыцынскае абслугоўванне тых гультаёў, хто не турбуецца аб сваім здароўі, аддаючы перавагу сытаму, лёгкаму, цёпламу жыццю ў сваёй «будцы»—кватэры з усімі выгодамі.

Я лічу, што гэта пытанне трэба тэрмінова вырашаць таму, што існуючае становішча несправядлівае. А калі кожны чалавек будзе плаціць за свае лячэнне, то ён павінен будзе клапаціцца аб сваім здароўі. Будзе. А калі не захоча—няхай плаціць са сваёй кішэні. Вось гэта ўжо будзе справядліва.

Тут, вядома, патрэбна зрабіць выключэнні, напрыклад, для дзяцей, інвалідаў, удзельнікаў усіх войн і рэвалюцый, для асоб, пазнаўшых рэпрэсіі, і г. д. Трэба даць пэўныя ільготы для тых, хто заслужыў перад Айчынай добрыя і ўважлівыя адносіны. А для гультаёў—ніякай літасці.

Далей—адукацыя. Мы ганарымся, што яна ў нас бясплатная. Давайце ганарыцца і далей. Але ж я не зразумею, чаму тыя, хто вучыцца нездавальняюча—вучацца бясплатна? Дзяржава бярэ ад нас грошы і траціць іх на адукацыю падрастаючага пакалення. А той, хто не хоча вучыцца, атрымліваецца, падманвае і грабіць дзяржаву, а таксама і нас усіх—налогаплацельшчыкаў. Лічу, што тыя вучні, хто атрымлівае за чвэрць ці за год двойкі, павінны заплаціць за кошт сваёй адукацыі. А як жа інакш: яны ж нічаму не навучыліся.

З майго ўласнага вопыту двоечнікі—гэта нахабныя лодыры—у сваёй большасці, а іх бацькі лодыры «ў квадрацe», якія не цікавяцца справамі, турботамі, выхаваннем сваіх дзяцей. Гэта вельмі часта п'яніцы, якія згубілі чалавечы выгляд. Дык чаму, скажыце мне, я павінен са сваёй кішэні заплаціць за пустое часаправоджанне ў школе ўсіх двоечнікаў—лодыраў?

Дзе ж справядлівасць?

Трэба прымаць канкрэтныя і рашучыя меры, каб прэстыж адукацыі, навукі, ведаў паднімаўся вышэй. Інакш **ніякіх** рэформ нам не ажыццявіць. З лапаткай і кіркай нам за камп'ютэрамі не ўгнацца. А з сучаснымі адносінамі дзяцей і іх бацькоў да вучобы мы можам рыхтаваць толькі чорнарабочых, а не інжынераў. Ды яшчэ і плаціць за іх гультаяватасць. Вось так.

Са мной многія будуць не згодны (у першую чаргу тыя, аб кім пішу), але рана ці позна гэтыя праблемы павінны будзем вырашаць. Інакш не будзе ў нас новага жыцця. Да чаго нас давяло грамадства суцэльнага ўраўнання—вядома. А быць роўным у жабрацтве—ужо не хочацца.

Можа, паспрабуем жыць як-небудзь інакш? Так, каб кожны сам адчуў сябе гаспадаром свайго лёсу? Можа так будзе лепей?

З павагай

**Вячаслаў БЕЛАВУС.**

**г. п. Руба.**

## Шаноўны пан рэдактар!

Рэгулярна чытаю вашае выданне. Часам яно падабаецца, часам—не. Асабліва спадабаўся мне сёлетні апошні нумар.

Беларушчына ў газеце, пакрыху раскіданая ў кожным нумары, быццам сканцэнтравалася ў дванаццатым. Калі такія тэндэнцыі будуць працягвацца, выданне стане бадай адзіным у вобласці, што не прадало за жменю сярэбранікаў сваю беларускасць, а наадварот імкнецца да адраджэння нашае мовы й культуры.

Але, канешне, галоўнае не ў беларускамоўнасці газеты. Выданне можа быць і беларускім па мове (як «Віцебскі рабочы»), але не цікавым і не дэмакратычным.

У антыдэмакратычнасці «Выбар» аніяк нельга абвінаваціць. А вось у якасці некаторых матэрыялаў і іхным размяшчэнні ёсць пэўныя хібы.

Пэўна ж лепей будзе, калі рускамоўныя матэрыялы будуць групавацца адзін ля аднаго, а беларускія—каля такіх жа. У іншым выпадку—нязвязаныя паміж сабою рознамоўныя тэксты адно толькі стракацяць у вачах. І чытач выбірае тую мову, якую ведае лепей, абмінаючы іншыя (можа, больш цікавыя) артыкулы. Дарэчы, калі зайшла ўжо гаворка аб моўнай палітыцы ў газеце, то варта спытацца: «Чаму выходныя дадзеныя выдання рознамоўныя? «Шапка»—беларуская, а завяршэнне на апошняй бачыне—рускамоўнае».

У выданні шмат разважанняў пра сённяшні стан палітыкі, гаспадаркі, адносін паміж людзьмі і г. д. Усё гэтае вельмі важна. Аднак нявapта забывацца на навіны, у тым ліку палітычныя й культурныя.

Неабходна падтрымліваць дэмакратызацыю на вёсцы. Раёнкі падаюць няшмат інфармацыі пра дэмакратычны, адраджэнцкі рух, пра палітычныя праблемы, што паўстаюць у іхніх раёнах. І тут газета мусі працаваць! Шукайце карэспандэнтаў у глыбінцы, і не толькі на ўсходзе вобласці, але й у заходніх раёнах, адкуль у вас вельмі мала вестак.

З цягам часу «Выбар» набудзе па-сапраўднаму рэспубліканскі статус, але ўжо і зараз можна парупіцца, каб газету чыталі ў Магілёве й Гомелі, Менску ды іншых мясцінах. Арганізуйце падпіску ўласнымі сіламі, шукайце й друкуйце нешта з тых старонак нашае Бацькаўшчыны. Адным словам, працуйце больш актыўна, плённа. Час прынясе вам падзяку.

**М. КАЛІНОЎСКІ,**

г. Віцебск.

# мировой пожар раздуем»

рубежных странах не было столько умерщвлено невинных жертв, как в бывшем СССР.

И опять блефуют! Я это понял не только из текста листовок, расклеенных на уличных столбах, рекламирующих все ту же горе-конференцию. На полном серьезе говорят и пишут о каких-то «социальных и гражданских правах, завоеванных в жесточайшей борьбе с эксплуататорами». Хороши же эти права, коль они выходят сегодня боком народам в Приднестровье, в Карабахе, в Северной Осетии.

Витебским необольшевикам неймется. Подыгрывая на экономических трудностях, они привычно мыслят присущими им ортодоксальными категориями. Не называя имен современных политиков, они вбивают в головы читателей своих листовок-воззваний, что якобы эти политики, «обманом прорвавшиеся к власти», «разжигают костер гражданской войны».

Значит, опять начнем, как и после 1917-го? Опять запоем: «Слушай, рабочий, война началася. Бросай свое дело, в поход собирайся».

Вот какие идеи протаскивают товарищи под видом проведения эфимерных городских конференций трудящихся! Это не то, что демократы (и местные, и в Минске), которые твердят постоянно о необходимости парламентского подхода, а не пресловутого классового антагонизма.

Подумай только, уважаемый читатель, нам в Беларуси для общего счастья только гражданской войны нынче и не хватает, особенно на фоне межнациональных и междуусобных кровавых пожарищ в некоторых бывших странах бывшей «колыбели дружбы народов—СССР».

Один, судя по публикации в газете «Віцебскі рабочы», мужественный человек нашелся. Хоть и бывший аппаратчик—руководитель совета объединения профсоюзов, но он воспротивился подлогу, публично отмежевался. Покинули преждевременно зал сходки официальные руководители, демократы. Но что-то не стали за ними в очередь остальные участники несостоявшейся «городской конференции трудящихся», которые пришли в ДК профсоюзов. Выходит, они не желают жить по правовым нормам, им хочется бороться!

**Б. ХАМАЙДА.**

